# ВЕДА — VEDA

Навукова-Літаратурны часапіс

Выдаець Крывіцкае (Беларускае) Навуковае Таварыства Пранціша Скарыны



Kryvian (Whiteruthenian) Scientific and Literary Magazine

Published by *Francis Skoryna* Kryvian Scientific Society

*Address: 6 Vandervoort Place, Brooklyn 6, New York, U. S. A.*

**1951, красавік—чырвень** Цана 30 ц. **April—June 1951**

**Я. Станкевіч**

## КАРОТКІ НАЧЫРК ГІСТОРЫІ КРЫВІЧ-БЕЛАРУСІ

*(Працяг)*

### ЯКОГА НАРОДУ ГАСПАДАРСТВАМ БЫЛО ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОУСКАЕ?

З гледзішча этноґрафічнага складу свайго жыхарства Вялікае Княства Літоўскае было гаспадарствам крывіцка (або беларуска)-лятувіскім, а ад палавіцы XIV стг. да вуні з Польшчаю 1569 г. і ўкраінскім, але з гледзішча таго, хто, які народ гэтае гаспадарства стварыў, які яно насіла нацыянальны характар, і хто яго сьведама ўдзержаваў, як сваё нацыянальнае, было яно толькі крывіцкае (беларускае). Тымчасам створаная Расійцамі блытаніна нацыянальных назоваў і нярэдка тэндэнцыйнае прадстаўленьне — Расійцамі й нерасійцамі — гісторычнае мінуласьці зрабілі тое, што ня ўсім ясна, чыім, якога народу гаспадарствам было з гэтага гледзішча Вялікае Княства Літоўскае. Дзеля таго, перш чымся гукаць пра гісторыю Крывіч наступнога пэрыяду, трэба выясьніць нацыя-

нальны характар гісторычнае Літвы. Наступныя арґумэнты пераконуюць нас, што Вялікае Княства Літоўскае было гаспадарствам народу Крывіцкага.

### Гэрб В. Кн. Літоўскага

Гэрбам Вялікага Княства Літоўскага быў узброены коньнікрыцар, што гоніцца за непрыяцелям. Як сьветча Іпатаўскі летапіс, гэты гэрб быў устаноўлены Вялікім Князям Віценям у канцы XIII стг. і што тады, як і цяпер, зваўся «пагоня»[71]. З прывілею Вялікага Князя Ягайлы, выданага баярству 20 лютага 1387 г., даведуемся, што «панароднаму» пагоняй звалася паспалітае рушэньне (заклік на вайну ўсіх мужчын)[72]. Дзеля таго што «пагоня», як «панароднаму» звалася паспалітае рушэньне, слова крывіцкае, а ня лятувіскае, то ясна, што назоў для гаспадарствавага гэрбу і гэрб сам быў узяты з народнага серадовішча крывіцкага. Апрача таго, на шчыце рыцара ёсьцека крыж, а тымчасам Аўкштота й Жмуйдзь, цяпер разам званыя Лятувою, былі хрышчаныя першая ў канцы XIV стг., а другая ў 1417-1418 г. Зь менаванага відаць, што гаспадарствавы гэрб гісторычнае Літвы крывіцкага паходжаньня.

### Мова Вял. Кн. Літоўскага

Гаспадарствавай моваю Вялікага Княства Літоўскага, ужыванай, бяз розьніцы нацыянальнасьці, на ўсёй ягонай тэрыторыі, у тым ліку ўв Аўкштоце й Жмуйдзі, была мова крывіцкая (беларуская). За пяць із палавіцаю стагодзьдзяў быцьця Вялікага Княства Літоўскага ня было ў ім ніводнага гаспадарствавага ані муніцыпальнага лісту (дакумэнту), ані зацемкі палятувіску. Ня ведамныя таксама з гэнага часу сьвецкія пісаньні прыватнага характару ў лятувіскай мове. Калі-б крывіцкая мова была моваю царквы, а Аўкштота-Жмуйдзіны былі супольнай веры з Крывічамі, то гаспадарствавасьць крывіцкае мовы ў гісторычнай Ліцьве і яе ўжываньне ўв Аўкштоце й Жмуйдзі ня было-б такім дзіўным, але ў Крывічоў

---

[71] Ипатьевская летопись (Спб. — 1843) т. 2-3, б. 345.

[72] Зборнік матар'ялаў і дакумэнтаў да гісторыі Беларусі (Менск 1936) т. I, б. 211. Глянь яшчэ Łowmiański, Studja, II, 225. Лаўмянскі добра кажа, што «пагоня» ў гэтым значаньню «была інстытуцыяй прастарой, а не кагадзе ўстаноўленай вялікімі князьмі».

праваслаўных і грэка-каталікоў моваю царквы была мова царкоўна-славянская, а ў каталікоў-лацінінікаў — лацінская. Пры такім палажэньню факт вылучнае гаспадарствавасьці крывіцкае мовы ў Ліцьве можна выясьніць толькі тым, што Крывічы былі народам гаспадарствавым у Вялікім Князьцьве Літоўскім. У праціўным прыпадку, дзеля гэных акалічнасьцяў, менаваны факт быў-бы зьяваю адзінай у сьвеце. Таксама назовы адміністрацыйныя й фіскальныя у Вялікім Князьцьве Літоўскім былі крывіцкія, а не аўкштоцка-жмуйдзкія, а гэта сьветча, што ад самога пачатку, ужо ў процэсе сваe арганізацыі гэтае гаспадарства было крывіцкім.

## Права

Кодэкс праваў В. Кн. Літоўскага, слаўны Статут Літоўскі быў ня толькі крывіцкім дзеля мовы, у якой напісаны, але й падзеля паходжаньня зьмешчаных у ім праваў. У васнове й бальшыні правы у ім крывіцкія звычаёвыя і часткава зафіксаваныя пісьменна ўперад, вытвараныя крывіцкім народам на працягу даўгога гаспадарствавага жыцьця ягонага[73]. Навука дагэтуль не сконстатавала ўплыву лятувіскага народнага права (іншага ў Лятувісаў ня было) на Статут Літоўскі[74]. Калі-б правы ў Статуце Літоўскім былі, хоць часткава, паходжаньня аўкштоцка-жмуйдзкага, яны лучылі-б у яго разам із сваймі аўкштоцка-жмуйдзкімі назовамі; накш гэтага прадставіць немагчыма. Тым-жа часам аўкштоцка-жмуйдзкіх або пацяперашняму лятувіскіх праўных тэрмінаў у Статуце зусім няма. Тэрміналёґія ў ім беларуская. Але можна нат проста ўказаць на некаторыя правы крывіцкія, унесеныя ў Статут Літоўскі. Гэтак, прыкладам, маем там беларускае звычаёвае права копных судоў[75]. З праваў пісаных увыйшлі ў Статут некаторыя правы з констытуцыяў асобных княстваў крывіцкіх (Полацкага, Смаленскага) папярэдняга пэрыяду. Прыкладам, у гэных констытуцыях былі бодкі (пункты) пра асабістую незачэпнасьць, ніхто ня мог быці пазбаўлены свабоды і караны без прасокі й суду; заґварантавана было права выезду заграніцу, права неадказнасьці радзімы (сям'і) за

---

[73] Гл. Д.-Зап., Ист. судьбы, 74, 81. Lichtensztul, The White-Ruthenian Problem, 1173. Пр. Грушевський, Іст. Укр.-Руси, V (Львоў 1905), 631.

[74] Гл. І. Лаппо, Статут Литовский 1588 г. (Коўня 1938).

[75] Окіншэвіч Л. («Полымя», т. IX, Менск 1928, б. 220) і Łowmiański, Studja, II, 202.

выступ аднаго зь ейных сяброў а інш. Адлі гэтыя правы з констытуцыяў асобных земляў увыйшлі ў прывілей Вялікага Князя Казімера з 1447 г., выданы ўсяму гаспадарству. Стуль лучылі ў тры Статуты Літоўскія (1529, 1566, 1588).

## Сьведамасьць у Крывічоў свае нацыянальнасьці і свае гаспадарствавасьці

Усі Крывічы ўважалі Вялікае Княства Літоўскае за сваё собскае гаспадарства, былі яны патрыётамі гэтага гаспадарства. Летапісы Вял. Кн. Літоўскага, што ё свайго роду патрыятычнай гісторыяй гаспадарства, былі творамі крывіцкімі, а аснова іхная, званая ў навуццы рэдакцыяй старшай, была ў канцы XIV і на пачатку XV стг. напісана ў Смаленску[76]. Як паказана вышэй, назоў гаспадарства «Літва» быў адначасна нацыянальным назовам крывіцкага народу. Калі дапусьціць, што В. Кн. Літоўскае ня было гаспадарствам крывіцкім, дык менаванае пад гэтай бодкаю магло стацца адно ў тым прыпадку, што тагачасныя Крывічы былі з гледзішча нацыянальна-культурнага асыміляваныя Лятувісамі (подле назову цяперашняга), тымчасам было наадварот, Крывічы ня толькі былі сьведамыя свае нацыянальнасьці, у Ліцьве ня толькі панавала мова й культура крывіцкая, але асьвечаныя станы іншых народаў крывічыліся. Асабліва гэта было ўв Аўкштоце й Жмуйдзі. Ня толькі прыбылая ў гэтыя краі крывіцкая шляхта гукала пакрывіцку, але таксама шляхта мясцовага паходжаньня, аўкштоцка-жмуйдзкая, як у жыцьцю палітычным а грамадзкім, так у прыватным а радзімным карысталася крывіцкай моваю, прыкладам пішучы ў ёй свае радзімныя хронікі, а собскую мову аўкштоцка-жмуйдзкую ўважала за простую, мужыцкую. Шляхта аўкштоцка-жмуйдзкая ўважала крывіцкую мову за вышшую і за сваю собскую, як гэта бывае ў людзёў нацыянальна асыміляваных. Дзеля таго мог канцлер В. Кн. Літоўскага, князь Леў Сапега, прамаўляючы ў 1588 г. на сойме з прычыны выданьня новага Статуту Літоўскага, сказаць да ўсіх, зн. і аўкштоцка-жмуйдзкіх, паслоў Вялікага Княства, што «калі іншым народам стыд праваў сваіх ня знаці, дык пагатове нам, бо мы ня ў чужой мове маем правы, але ў сваёй собскай».

---

[76] Сушицький, Західноруські літописи, як пам'ятки літератури, I (Кіеў 1924), б. 135-136.

## Палітыка

Палітыка ўраду Вял. Кн. Літоўскага, ягонае дынастыі (Гедымінавічаў), Рады Вялікага Княства й Сойму рэалізавала нацыянальныя імкненьні крывіцкага народу. Ня толькі мова крывіцкая панавала на двары вялікіх князёў літоўскіх, але й гэтыя князі жылі поўным крывіцкім культурным жыцьцём, былі працятыя ягонай традыцыяю і хатняй моваю іхнаю была мова крывіцкая[77].

Як было паказана ў папярэднім разьдзеле, у пэрыяд Вялікага Княства Літоўскага і пасьлей Крывічы зваліся Літвой, Ліцьвінамі, значыцца, зваліся так, як і гаспадарства, а гэта таксама сьветча пра значаньне крывіцкага народу, як гаспадарствавага ў Вялікім Княсьцьве Літоўскім.

У навуковым сьвеце, прынамся ў бальшыні яго, прызнаюць, што Вял. Кн. Літоўскае было гаспадарствам крывіцкім (гісторыкі Н. Кастамараў[78], Даўнар-Запольскі[79] і інш., лінґвісты А. Шахматаў і інш.). Званьне В. Кн. Літоўскага некаторымі наўчонымі — звычайна Расійцамі — «заходне-рускім», або «літоўска-рускім» значыць тое самое, што крывіцкім або накш беларускім, бо гэта толькі штучныя русыфікацыйныя тэрміны. Гісторыкі Любаўскі[80] і Антановіч[81] для XIII стг. ўважаюць В. Кн. Літоўскае лятувіскім і беларускім, а пачынаючы ад пачатку XIV стг. (другі зь іх ад канца XIV стг.) — крывіцкім.

# ПАУСТАНЬНЕ ЗАДЗІНОЧАНАГА ГАСПАДАРСТВА КРЫВІЦКАГА

**Спачатнае ядро гаспадарства.** Першыя ведамкі пра крывіцкае гаспадарства, званае Літвою, паходзяць із 1235-1238 г., калі першы вялікі князь ягоны Міндоўг маў ладныя сілы. У гэтым часе Даніла Раманавіч Галіцка-Валынскі шукаў ізь ім хаўрусу супроць Конрада Мазавецкага[82]. Сталіцаю гэтага княства было места Ноўгарадак[83].

---

[77] Пр. Антонович, Очерк ист. В. Кн. Лит., б. 98, 99, 100; Любавский, Очерк ист. Л.-Р. г., 38; Д.-Зап., Ист. судьбы, 71.

[78] Две рус. нар., 39.

[79] Очерк ист. Кр.. и Др. Зем., 96.

[80] Очерк ист. Л.-Р. г., 15-16. [81] Очерк ист. В. Кн. Лит., 156.

[82] Антонович, цыт. праца, 26. Пр. **Łowmiański**, Studja, II, 331.

[83] Д.-Зап., Ист. судьбы, 69. Зь гісторыкаў адно Лаўмянскі (Studja) з гэтым не згаджаецца, але ён ня прывёў даводаў супроць гэтага.

Яно займала тэрыторыю паўдзённа-заходніх удзелаў Вялікага Княства Полацкага — мясцовасьці зь местамі Ноўгарадкам, Зьдзітавам, Слонімам, Ваўкавыскам а Гораднам[84]. Каля гэтае тэрыторыі, як асноўнага ядра, складалася й расло гаспадарства. За сто год бальшыня крывіцкіх земляў ужо была ў ягоных межах, засталыя землі крывіцкія залежылі ад яго або былі пад ягоным ўплывам (княства Разанскае).

**Як сталася задзіночаньне** такое вялізарнае тэрыторыі ў такі короткі час? Жыхарства крывіцкіх земляў самахоць прылучалася да менаванага гаспадарствавага ядра, і адно дзе-ня-дзе спраціўляліся князі мясцовых дынастыяў. Дзеля таго прыродна, што «сіла зброі ў дадзеным прыпадку мала другараднае значаньне, бо, ня кажучы ўжо пра самахвотнае прылучэньне земляў а дзяржаваў, самая заваявальная палітыка Літвы не знаходзіла ў Беларусі энэргічнага адпору, так што ў іншых прыпадках цяжка азначыць, ад чаго залежыла прылучэньне, ад сілы зброі ці ад собскага жаданьня»[85].

**Прычыны самахвотнага задзіночаньня**. Якія-ж былі прычыны такога дачыненьня Крывічан да адзіночачых імкненьняў, што праявіліся на паўдзённым заходзе Крывіч? Прычыны былі ў сьвядомасьці ўсімі крывіцкімі плямёнамі іх агульнакрывіцкага адзіноства і вынікаючай адгэтуль нацыянальнай солідарнасьці[86]. Другой прычынаю быў аднолькавы гаспадарствавы лад усіх беларускіх княстваў[87]. Наапошку ў «XIII і XIV стг. мноства акалічнасьцяў вымагала ад іх (крывіцкіх земляў) палітычнага адзіночаньня, супольнага жыцьця, сумеснай дзеяльнасьці. З усіх бакоў напіраюць на беларускія землі варагі. З паўдня йшло паняволеньне й пустошаньне ад Татар; з паўночнага заходу напіралі нямецкія рыцары... у XIV стг. пачало напіраць маладое Польскае каралеўства...; а з усходу пайшлі крыўды й пустошаньні ад мацнеючага Маскоўскага Княства»[88].

**Тэрыторыяльны рост гаспадарства за Міндоўга.** За Міндоўга полацкая дынастыя Усяславічаў была вымершы. Гэта папрыяла

[84] Антонович, там-жа, 49.

[85] Любавский, цыт. праца, 32.

[86] Прыкл., Полацкае веча й князі ў сваіх міжусобіцах прызываюць на помач князёў толькі з крывіцкіх княстваў. Гл. Антонович, там-жа, 94, зацемка.

[87] Там-жа, 18.

[88] Любавский, цыт. пр., 33.

таму, што найперш Полацкая зямля ў шырокім значаньню прылучылася да новага гаспадарствавага цэнтру; Полацак, Віцебск, Друцак, Ворша, Рагачэў а іншыя старыя месты Полацкае зямлі адгэтуль належаць да задзіночанага крывіцкага гаспадарства. Адлі (у працягу 1248-1258 г.) Міндоўг пасадзіў сваіх князёў у часьці зямлі Смаленскай[89]. Іпацкі летапіс (бач. 530) сьветча, што ўжо ў 1246 г. Турава-Пінскія князі прызнаюць верхнюю ўладу Міндоўгаву[90].

**Гаспадарствавы перакрыш.** Першая тэрыторыя задзіночанага крывіцкага гаспадарства ўтварылася ня ў цэнтры Вялікага Княства Полацкага зь ягоным вельмі разьвітым народапраўствам, а ў паўдзённа-заходніх удзелах Полацкае зямлі, дзе вечавы лад, відавочна, быў шмат слабшы. З гэтае прычыны ўлада Вялікага Князя Міндоўга была шмат балей незалежнай ад веча, чымся ўлада вялікіх князёў якога-колечы іншага крывіцкага гаспадарства. Радыкальныя меры, ужытыя Міндоўгам супроць удзельных князёў пры ўстанаўленьню ім новага ладу, наймя выгнаньне князёў з удзелаў а конфіскацыя іхняй маемасьці, прывялі ў 1248 г. да нутраной хатняй вайны. З гэтага скарысталі суседзі, што зайздрасна пазіралі на ўзмацненьне задзіночаных Крывіч. Супроць Крывіч утварылася коаліцыя з Галіцка-Валынскага княства, Лівонскага ордэну а Польшчы, а з балцкіх плямёнаў у коаліцы былі Яцьвягі а Жмуйдзь, што варожа ставіліся да крывіцкага гаспадарства.

Умелым дыплематычным ходам Міндоўг падзяліў сваіх праціўнікаў. Прыняўшы хрысьцянства (або можа адно перайшоўшы з праваслаўя ў каталіцтва), Міндоўг зрабіў хаўрус із Лівонскім ордэнам 1250 г. і адзержыў ад папежа каралеўскую карону. Пасьлей, у канцы 1253 або ў 1254 г., ён памірыўся з Галіцка-Валынскімі князьмі, уступіўшы Раману Данілавічу на ленным праве Ноўгарадак, Слонім а Ваўкавыск[91], аднятыя Міндоўгам у 1258 г.[92]

**Спроба Міндоўга хрысьціць Аўкштоту.** Прыняўшы каталіцтва і каранаваўшыся за караля, Міндоўг разам із гэтым прыняў на сябе абавязаньне навярнуць на хрысьцянства Аўкштоту. Але Аўкштота ў гэным часе не належыла да яго[93].

---

89 Антонович, цыт. пр., 26.

90 Антонович, там-жа, 24.

91 Антонович, там-жа, 28.

92 **Łowmiański**, Studja, II, 346.

93 Лаўмянскі даводзе, што Міндоўг валодаваў 1/4 часьцю Аўкштоты, але факты, прыводжаныя ім, барджджэй сьветчаць праз тое, што Аўкштота, апрача,

Дзеля навярненьня на хрысьцянства, трэ' было яе спачатку заваяваць. Гэта й было зроблена Міндоўгам. Але й просьле заваяваньня Аўкштоты, там і далей былі хваляваньні. Дзеля таго, калі здабытая — подле міру зь Міндоўгам — Лівонскім ордэнам Жмуйдзь паўстала й разьбіла рыцараў у 1260 г. а вайводца Жмуйдзінаў, Трайнат, пасуліў Міндоўгу хаўрус пад умовай разрыву з Ордэнам і адрачэньня ад хрысьцянства, Міндоўг пайшоў на гэта[94].

**Дачыненьні паміж Крывічанмі й Аўкштота-Жмуйдзінамі**

У 1253 г., просьле каранаваньня за караля, Міндоўг заваяваў ¼ часьць Аўкштоты[95] і прылучыў яе да крывіцкага гаспадарства. Адлі ў вадным із Крывічанмі гаспадарсьцьве ё, залежна ад часу, большая альбо меншая часьць Аўкштоты, а ў некаторыя поры і Жмуйдзь, канчальна прылучаная да крывіцкага гаспадарства ў 14П г. Каб выясьніць сабе дачыненьні дзьвюх нацыянальнасьцяў — крывіцкай і аўкштоцка-жмуйдзкай — надабе зьвярнуцца крыху назад.

**Нацыянальныя назовы.** Але ўперад трэба разабрацца ў назовах. На складаючыя адзін народ балцкія пламёны Аўкштоту й Жмудзь быў штучна пашыраны ў XIX а XX стг. адзін супольны назоў «Літва» (пабалцку «Lietuva»). Дагэнуль аднага супольнага назову менаваныя плямёны ня малі. Другое зь іх заўсёды звалася толькі Жмуйдзь (даўней пакрывіцку Жамойць—з балцкага Žemaitis). Што да першага, Аўкштоты[96], дык у XIII стг. Аўкштотцы ня малі нават гэтага супольнага пляменнага назову, але дзяліліся на 4 тэрыторыяльныя адзінкі, з каторых кажная мала свой апрычоны назоў, як Дзяволта, Нальшчаны а інш[97]. Адна з гэтых частак Аўкштоты, прылучаная, як даводзе Лаўмянскі, у 1253 г., лежачая ў вілах рэкаў Нёмна й Вяльлі і на паўдні гранічачая з Крывічамі па ліні, пра-

---

хіба, часткаў, што ўразаліся клінам у этнографічную крывіцкую тэрыторыю і аўкштоцкіх астраўкоў сярод крывіцкае масы, зусім ня ўходзіла ў гэты час у склад крывіцкага гаспадарства (гл. Studja, II, 337-343). Зрэшта, на бач. 346 таго-ж тому свае працы Лаўмянскі кажа, што менаваная 4-ая часьць Аўкштоты была прылучана толькі ў 1253 г.

[94] Łowmiański, op. c. II, 356-357.

[95] Łowmiański, op. c. II, 346.

[96] Азначаныя Лаўмянскім граніцы Аўкштоты з Крывічамі (там-жа мапа) патрабуюць некаторых папраўкаў на карысьць Крывічоў, асабліва ў ваколіцах Ашмяны й Вільні.

[97] Łowmiański, op. c. II, 106-114.

ходзячай блізка местачка Мерача і р. Мерачанкі, звалася Літвою[98]. Лаўмянскі даводзе, што адно менаваная часьць Аўкштоты звалася Літвою, а запраўды ўжо з прыведзеных ім фактаў відаць, што назоў «Літва» быў тэрыторыяльны і абымаў у першай палавіцы XIII стг. як Аўкштотцаў, так і Крывічоў, займаючых трыкутнік, каторага верхам быў уток Вяльлі ў Нёман, бакамі абедзьве гэтыя рэкі і асноваю — таксама Нёман. Тэрыторыя гэта была заселена ў бальшыні Крывічанмі[99].

**Культурная роўня Аўкштота-Жмуйдзі.** Дачыненьні ў Крывічан із Балтамі былі зь няпомных часоў. У другой палавіцы XII і ў пачатку XIII стг. на дольнай Дзьвіне, сярод Латышоў у Лівоні былі два крывіцкія княствы, Герсіка а Кукейнос — Полацкія ўдзелы. Аўкштота была ў ладнай меры пранізана крывіцкім элемэнтам, што прыходзіў сюды спаміж князёў, баяраў і народу.

Калі ў пал. XIII стг. Крывічы й Аўкштотцы, а з часам і Жмуйдзіны, апынуліся ў вадным крывіцкім гаспадарсьцьве, дык культурная роўня абодвых гэтых народаў была неаднолькавая. Балты з кажнага гледзішча стаялі нат ніжэй тае роўні, на каторай Крывічы былі ўжо ў IX стг. Паміж іншага, ув Аўкштотґцаў, як і Жмуйдзіноў, ня было першых пачаткаў гаспадарствавасьці і нат інстытуту сталых тэрыторыяльных начэльнікаў у кажнай із 8-ёх земляў, на каторыя дзялілася невялічкая тэрыторыя Аўкштота-Жмуйдзі. Адно былі куніґасы расьцярушанай масы драбных валасьцяў[100]. Дзеля менаванага, прыродна, што на Аўкштоце-Жмуйдзі пашырыліся ўсі крывіцкія парадкі й установы[101].

**Князі зь імёнамі балцкага паходжаньня.** Якога-б паходжаньня ня былі маючыя балцкія ймёны[102] князі крывіцкіх княстваў у XIII стг., усі яны, як прыхільнікі вялікага князя задзіночанага кры-

---

[98] Ор. с., II, 153-154, гл. таксама мапу.

[99] З паўстаньням задзіночанага крывіцкага гаспадарства, званага Літвою, ягоны назоў памалу пашырыўся на ўсю ягоную тэрыторыю і на ўсіх ягоных крывіцкіх жыхараў, пры гэтым прыродна, што ладны час побач із назовам «Літва», быў і стары назоў «Крывічы» і назоў «Русь» (апошні ў значаньню рэліґійным).

[100] Антонович, цыт. пр. 7,14; Любавский, цыт. пр. 12; Łowmiański, ор. с., II, 184, 187, 190-191, 229, 330.

[101] Пр. Любавский, ц. пр. 15-16; Антонович, ц. пр. 44. Цьверджаньне Лаўмянскага, што фіскальная сыстэма была перанятая ў Лівонскіх Немцаў (ц. пр. II, 364-368) непераконуючае.

[102] Як мы бачылі вышэй, балцкае імя ня вылучае крывіцкага паходжаньня.

віцкага гаспадарства, так і яго староньнікі й праціўнікі (прыкл. адзін із забіўцаў Міндоўга Пскоўскі князь Доўмонт), подле сваіх імкненьняў, настрояў, дачыненьняў да крывіцкага народу і ягоных традыцыяў а свайні, былі князьмі крывіцкімі.

**Міндоўг.** Другое імя ягонае, відавочна, было Зяслаў[103]. Ягонае паходжаньне няведамнае. Гусьцінскі летапіс кажа, што ён быў праваслаўны, што зусім праўдападобна, судзячы па тэй грамадзкой а радзімнай атмосфэры, у каторай ён жыў, прынамся ён не праяўляў ніякае непрыязьні да хрысьцян усходняга абраду, каторымі былі тады ўсі, з выняткам адзінак а малых групаў, Крывічане. Не таковыя дачыненьні Міндоўга да паганства Балтаў і рымскага каталіцтва. Адрокшыся ад прынятага з палітычных мотываў каталіцтва, Міндоўг адразу абясьціў каталіцкаму сьвету срогую вайну, каталіцкія краі, г. зн. Ордэн а Польшчу, грабіў а пустошыў, каталікоў у сваім краю садзіў у турмы а забіваў[104]. Абедзьве жонкі Міндоўгавы, першая княжна Цьверская[105] (імя ейнае ня ведамнае) і другая Мархва былі бяссумлеву Крывічанкі ўсходняй царквы. Родная сястра Мархвіна была замужам за Даўмонтам, князям Пскоўскім, залічаным Псковічамі да ліку сьвятых.

**Вайшэлка-Раман,** сын Міндоўгаў а княжны Цьверскай[106], быў ня толькі гарачым праваслаўным, але нат пастрыгся ў мніхі.

**Таўцівіл,** князь Полацкі, быў жанаты з дачкою князя Полацкага й Віцебскага Брачыслава.

**Дружына.** Што бальшыню дружыны Міндоўгавай складалі Крывічане, відаць із прывязьлівасьці й вернасьці яе як Міндоўгу, так і ведамнаму сваёй адданасьцю крывіччыне ягонаму сыну Вайшэлку. Захаваліся ймёны двух «вайводаў» Міндоўгавых, з каторых адзін Хвал, а другі Рушковіч. Міндоўг а Вайшэлка, разьбіваючы пры помачы дружыны аўкштоцкія землі, імкнуліся чыста зьнішчыць іхную арганізацыю, бо яна была вельмі небясьпечная новай уладзе[107].

---

103 Гэта відаць із словаў летапісу: «Данил же возведе на Кондрата Литву, Миндога, Изяслава Новгородьского» (П.С.Р.Л. II², 776). **Літва** тут, ведама, Крывічы.

104 **Łowmiański,** Studja, II, 324.

105 Киркор, Ист. Литвы («Живоп. Россія», 77); Барташэвіч.

106 Тацішчаў, Барташэвіч, Кіркор, там-жа, 76-77.

107 **Łowmiański,** op. c., I, 439; II, 362-363.

**Стычка двух народаў.** Першае ходаньне крывіцкага й аўкштоцка-жмуйдзкага народаў сталася ў 1248 г., калі некаторыя ўдзельныя князі ўзьнялі супроць Міндоўга Жмуйдзь а Яцьвягаў. Міндоўг, як ведама, адказаў тым, што ў 1250 г. згадзіўся на прылучэньне Жмуйдзі да Лівонскага Ордэну; праўда, Жмуйдзь тады ня ўходзіла ў склад крывіцкага гаспадарства. Супроць заўсёды варожых крывіцкаму гаспадарству Яцьвягаў, пляменi сваяму Аўкштота-Жмуйдзі, Міндоўг хітрым манэўрам (уступленьням на ленных правах часьці свае зямлі) ськіраваў Галіцка-Валынскага князя Данілу Раманавіча[108].

Пасьлей, заваяваўшы Аўкштоту і парваўшы з Ордэнам (у 1261), Міндоўг зрабіў хаўрус із начэльнікам Жмуйдзі, Трайнатам, але гэты аказаўся хаўрусьнікам меней верным, чымся Лів. Ордэн. Хаўрус із жмуйдзкім вайводцам, як і валоданьне цэлай Аўкштотай, былі згубныя Міндоўгу. Дзьве аўкштоцкія землі — Дзяволта а Нальшчаны — паўсталі супроць яго, да іх прылучыўся Трайнат із Жмудзьдзю, і ў часе гэтае вайны Міндоўг быў забыты[109] ў 1263.

Просьле гэтага на чале крывіцкай нацыянальнасьці стаў Полацкі ўдзельны князь Таўцівіл. Нутраная вайна цягнулася. У часе яе Таўцівіл быў забіты падасланымі Трайнатом забіўцамі[110].

Тады на абарону крывіцкай нацыянальнасьці выступіў «новы абароньнік ейных інтарэсаў» сын Міндоўгаў Вайшэлка. У 1265 г., пакінуўшы мніскую «ризу», ён з помачай Пінскіх князёў пайшоў на Ноўгарадак і, пераняты з радасьцяй, завалодаў ім без спраціўленьня. Папоўніўшы свае тут войска («а оттолѣ поя съ собою Новгородцѣ») крывіцкай дружынаю Міндоўгавай, ён «поиде въ силѣ тяжцѣ» на Аўкштоту, которай усі землі разграміў[111].

У часе вайны забіты быў Трайнат канюхом Міндоўгавым. Просьле гэтага Вайшэлка зьвярнуўся ў манастыр, перадаўшы ўладу ў гаспадарсьцьве Шварну Данілавічу, каторы, як прымака да дачкі Міндоўгавай, подле звычаёвага крывіцкага права, быў сябрам ягонае радзімы і, значыцца, просьле Вайшэлкі, праўным наступнікам пасаду[112].

---

108 Антонович, ц. пр., 28-29.

109 **Łowmiański**, op. c., II, 345-346, 358.

110 Пр. Антонович, ц. пр., 33.

111 Іпацкі лет., 570. «стоя на земли их все лето. Тогда же окаянным воздаст Господь по делом; всю бо землю оружием плени, а по христианской земли по всей веселие бысть на многа лета». Летапіс выд. Даніловічам, 149.

112 Пр. **Łowmiański**, Studja, 377-378. Антонович, ц. пр.

Па сьмерці Вайшэлкі (у 1267) а Шварна Данілавіча (у 1268) вялікім князям быў Тройдзен (1270-1282). Яго ўважаюць за прыхільніка аўкштоцка- жмуйдзкіх асноваў[113]. Але гэта магло праяўляцца ў яго адно ў прыяньню народнаму быту Аўкштотцаў а Жмуйдзіноў ды іх паганскай веры; дачыненьні сілаў у гаспадарсьцьве былі такія, што Тройдзен мусіў весьці крывіцкую палітыку. Ён глядзеў на Крывічы «як на базу свае сілы і ўлады»[114]. Крывічы таксама складалі адзьдзелы ягоных войскаў[115]. Зрэшта, браты Тройдзенавы, «добрыя хрысьцяне», як кажа летапіс[116], былі крывіцкія патрыёты.

## НОВАЯ ДЫНАСТЫЯ. — МАГУТНАСЬЦЬ ЗАДЗІНОЧАНАГА КРЫВІЦКАГА ГАСПАДАРСТВА

Па сьмерці Тройдзена, пасад задзіночанага крывіцкага гаспадарства пераходзе да новае дынастыі. Закладнікам яе быў Лютавар у 80-ых гадох XIII стг. За сына ягонага Віценя (1293-1316) і асабліва, калі за вялікага князя стаўся другі ягоны сын Гедымін (1316-1341), задзіночанае крывіцкае гаспадарства дасягае вялікай магутнасьці, каторая, усё растучы, даходзе свае найвышшае бодкі за Альгерда (1341-1377), Ягайлы (1377-1392) і Вітаўта (1392-1430) і застаецца траха ў такім-жа стане да апошняе чэцьверці XV стг. Апрача вышменаваных, прычынамі гэтага росту былі палітычная сьпеласьць крывіцкага грамадзтва, што перажыло колькі стагодзьдзяў быцьця пляменных крывіцкіх гаспадарстваў, патрыятызм гэтага грамадзтва й дынастыі і выдатныя палітычныя таленты бальшыні ейных прадстаўнікоў. Сярод гэтае дынастыі не сустракаюцца прыхільнікі аўкштоцка-жмуйдзкіх асноваў. Усі яны крывіцкія патрыёты.

**Сэпаратызм Аўкштоты й Жмуйдзі.** Адылі варожыя дачыненьні да гаспадарства Аўкштоты й Жмудзі і іхны сэпаратызм яшчэ даўгі час трывалі, але яны ўжо ня былі небясьпечныя гаспадарству. Гэтак, траха ўвесь час гаспадарстваваньня Лютавара й Віценя бязупынку выбухалі паўстаньні на чале зь Пялюзаю, Тройдзена-

---

[113] Антонович, ц. пр., Лаўмянскі, ц. пр.

[114] *Любавский, ц. пр. 15-16.*

[115] Die Livländische Reimschronik верш 8217.

[116] П.С.Р.Л., II 2, 869.

вым сынам, у пагранічнай паласе Аўкштоты. Маючы сувязі із сябрамі прыяючай яму партыі, Пялюза часта выклікаў зраду аўкштоцкіх ваенных камандзераў і командантаў цьвердзяў, што, ня б'ючыся, здавалі крыжаком паручаныя іхнай абароне замкі[117]. «Протэст (аўкштоцка-жмуйдзкага народу) супроць новае княскае дынастыі знаходзіў моцнае падзьдзяржаньне ў жыхараў Жмуйдзкай зямлі. Гэтак, у 1294 г., у часе нападу на Жмуйдзь крыжакоў, начэльныя людзі Жмуйдзкай зямлі сьхінулі народ да хаўрусу зь імі і паднялі адкрытае паўстаньне супроць Віценя; хоць рух гэты быў услышаны, але, як сьветчаць нямецкія летапісцы, Віцень да канца свайго княжэньня ня змог сьхінуць Жмуйдзіноў ні просьбамі, ні пагрозамі да згоды і супольнай із ім вайны з крыжакамі» (там-жа). Дык няма дзіва, што нат шмат пасьлей Ягайла й Вітаўт уступаюць Жмуйдзь нямецкаму рыцарскаму Ордэну. Апошняе сэпаратыстычнае паўстаньне Жмуйдзі было ў 1418 г. на чале з Войценісам[118].

## Дальшае адзіночаньне крывіцкіх земляў

Галоўнай мэтаю задзіночанага крывіцкага гаспадарства, Вялікага Княства Літоўскага, было прылучэньне тых крывіцкіх земляў, што яшчэ заставаліся вонках яго. Мэта гэта была дапятая на 100 проц. ды бяз болю. Яшчэ да прылучэньня часьці крывіцкіх асобных княстваў паміж імі і задзіночаным крывіцкім гаспадарствам, Літвою, устанавілася ведамная салідарнасьць і ўзаемнае супрацавенства.

**Прылучэньне Вялікага Княства Смаленскага.** Ужо за Міндоўга стаўся пачатак падданьня задзіночаным Крывічом Смаленскага Княства. За Гедыміна справа пайшла шмат далей. У гэтым часе Вялікае Княства Смаленскае цярпела ад татарскіх находаў, чаму памагалі Маскоўскія князі, і ад націску самой мацнеючай Масквы. «Найбалей зла рабіла Смаленскай зямлі Масква. Маскоўскі князь Юры Данілавіч, карыстаючыся нязгодамі Смаленскіх князёў, адабраў у іх Мажайск. Масква стала апекавацца ўдзельнымі смаленскімі князьмі ў іхных супярэчках із вялікімі, прычыняцца за

---

[117] Антонович, ц. пр.

[118] Kolankowski, Polska Jagiellonów (Львоў 1936), б. 52. Łowmiański, op. c., I, 255.

іх ув Ардзе»[119]. Усё гэта прынучыла (прымусіла) Смаленск шукаці сабе апоры й памогі ў задзіночанага крывіцкага гаспадарства. Вялікі князь Смаленскі Іван Аляксандравіч прызнаў Гедыміна за свайго старшага брата[120]. Гэт'кім парадкам, устанавілася залежнасьць Смаленска ад задзіночаных Крывіч. Смаленскія князі застаюцца таксама ў хаўрусе й прыязьні зь Вялікім Князям Альгердам. У гэтым часе Вялікае Княства Літоўскае сыстэматычна бароне Смаленск ад Масквы. Гэтак, у 1341 г. палкі задзіночанага гаспадарства крывіцкага хадзілі на помач Смальнянам пры здабываньню імі Мажайску, адабранага ў Смальнян Масквой[121]. У 1352 г. Альгерд ізноў зрабіў Смаленску важную ўслугу: вял. князь Маскоўскі Сямён Іванавіч «собравше силу многу, поиде ратью к Смоленску», але на граніцы Смаленскіх дзяржаваў... яго стрэла літоўскае пасолства, ...Сямён Іванавіч «не оставя слова Ольгердова мир взя и отпусти послы с миром»[122]. У 1355 г., дзеля абароны смаленскіх земляў ад Масквы, Альгерд заняў смаленскае места Ржэву, што была на граніцы дзяржаваў смаленскіх, цьверскіх а маскоўскіх.

Із свайго боку і Смальняне адудзячуюцца тым-жа. У 1348 г. смаленскае войска хадзіла на помач Кяйстуту супроць крыжакоў і прымала ўчасьце ў біцьве ля р. Стравы. У 1352 г. адзін із смаленскіх князёў аблягаў нямецкі замак Лябіау[123]. У 1368, 1370, 1372 Смаленскі князь «со всею силою смоленскою» хадзіў із Альгердам у часе ягоных паходаў на Маскву[124]. Фактычна ўжо за Альгерда Вял. Кн. Смаленскае ўходзе ў склад задзіночанага гаспадарства крывіцкага, але формальна прылучэньне сталаса крыху пасьлей. У 1386 г. была ўстаноўлена васальная залежнасьць Вял. Кн. Смаленскага ад Вялікага Княства Літоўскага, а ў 1395 г. Смаленшчына была формальна прылучана — пры памозе самых Смальнян — да задзіночанага гаспадарства крывіцкага.

**Прылучэньне вярхоўскіх княстваў.** Адначасна із Смаленскаю зямлёю былі прылучаныя да задзіночаных Крывіч крывіцкія

---

[119] Любавский, ц. пр., 29.

[120] Там-жа.

[121] Любавский, ц. пр., 30. Антонович, ц. пр. 130.

[122] Антонович, там-жа.

[123] Антонович, ц. пр., 107.

[124] Там-жа, 131.

кнііствы, лежачыя ў басэйне вышняе Акі й вышняе Дзясны[125], т. зв. вярхоўскія.

**Прылучэньне Севершчыны.** Яшчэ раней, у першай палавіцы XIV стг. была прылучаная да задзіночанага гаспадарства крывіцкага ўся Севершчына[126].

**Прылучэньне Вялікага Княства Разанскага.** Падобна, як Вял. Кн. Смаленскае й іншыя, задзіночаныя Крывічане баранілі ад Масквы Вялікае Княства Разанскае. Альгерд у вадным із сваіх паходаў, узяўшы Маскву, устанавіў граніцу «па Мажайск і Каломну». Мажайск належыў да княства Смаленскага, а Каломна — да Разанскага. Княства Рязанскае было прылучанае у 1396-7 г. Было яно ў задзіночаных Крывічох на палажэньню самастойнага ўдзельнага княства[127].

**Усходнія землі задзіночаных Крывіч.** Просьле менаваных прылучэньняў усходніх крывіцкіх земляў, задзіночаныя Крывічы займалі на ўсходзе тэрыторыю гэткіх нядаўніх (да рэволюцыі 1917 г.) губэрняў: Курскую, Арлоўскую, Калускую, Тульскую й Разанскую[128].

**Протэкторат над Псковам.** Найбалей задзіночаныя Крывічы рупяцца пра Пскоў, прадаўжаючы й тут традыцыю Вялікага Княства Полацкага. За Гедыміна на абарону Пскова ад Лівонскага Ордэну ходзе з войскам у 1322 і 1323 г. геніяльны крывіцкі вайводца, Горадзенскі стараста і адміністратар паўдзённа-заходніх Крывіч Давід Горадзенскі[129].

«У 1328-1338 гг. Гедымін падзьдзержуе ў Пскове прынятага Псковічамі на княжэньне былога цьверскага князя Аляксандру Міхайлавіча, выгнанага зь Цьверы і перасьледаванага ў Пскове, на ханскі загад, (маскоўскім) Іванам Калітою; калі, на дамаганьне апошняга, Пскоў, што не хацеў выдаць Аляксандру, быў адлучаны ад царквы мітрапалітам, дык князь гэты знайшоў у Ліцьве прытульле і, паўтара гада шчакаўшы, зьвярнуўся назад у Пскоў пры помачы Гедыміна[130]». Задзіночаныя Крывічы ня толькі бароняць

---

[125] Любавский, там-жа, 32.
[126] Антонович, там-жа, 133-135.
[127] Kolankowski, op. c., 28. Любавский, ц. пр. 54, 55.
[128] Пр. Любавский, ц. пр. 32, 54, 55.
[129] Антонович, ц. пр. 45-47, 50.
[130] Антонович, ц. пр., 67.

Пскоў з боку ваеннага й палітычнага, але таксама руляцца пра ягоную царкоўна-культурную самастойнасьць. Гэтак, у 1331 г. Гедымін вельмі падзьдзержуе жаданьне Псковічаў маць сваё асобнае ад Ноўгараду біскупства[131]. Гэткія-ж дачыненьні заставаліся ў задзіночаных Крывічан ізь іхнімі пскоўскімі родзічамі за Альгерда. Траха ўвесь час гаспадарстваваньня Альгерда Пскоўскім князям быў сын ягоны Андрэй, што княжыў у Пскове сам беспасярэдне або пераз сваіх намесьнікаў[132]. Падобна было за Ягайлы й Вітаўта, калі намесьнікам у Пскове задзіночаных Крывіч быў Пінскі князь Юры Нос[133].

**Протэкторат над Цьверай.** Вялікае Княства Цьверскае прыцягавала ўвагу палітыкі задзіночаных Крывіч сваім крывіцкім жыхарствам у заходняй палавіцы (у ўсходняй палавіцы было жыхарства славенскае) і сваім суседзтвам ізь В. Кн. Смаленскім, катораму лягчэй было бараніцца ад Масквы пры ўмове незалежнасьці Цьверы. Вялікі Князь Альгерд сыстэматычна даваў помач Цьверы, робячы з гэтай мэтаю цэлы сьцяг паходаў на Маскву (у 1357, 1367, 1368, 1370, 1372). Фактычна крывіцкі протэкторат над Цьверай быў ужо за Альгерда, але формальна ён быў устаноўлены за Вітаўта[134].

**Крывіцкі протэкторат над В. Ноўгарадам.** Крывіцка-ноўгарадзкае сяброўства і ўплыў Крывічан на ноўгарадзкія справы пачаліся просьле аддаленьня залежнасьці Пскова ад Ноўгараду. Адгэнуль бязупыну ёсьць у Ноўгарадзе крывіцкая партыя, а із Смаленскам у Ноўгараду паўтараюцца хаўрусы супроць супольнага ў іх суседа-непрыяцеля — Суздаля. Дачыненьні гэтыя ўзмоцніліся з выступленьням на сцэну задзіночанага гаспадарства крывіцкага, пачынаючы ад Гедыміна, калі задзіночаныя Крывічы заўсёды памагаюць Ноўгараду ў ягоным ходаньню з Масквою. За Вітаўта быў устаноўлены крывіцкі протэкторат над В. Ноўгарадам.

**Прылучэньне Жмуйдзі.** У 1411 г., просьле перамогі над Грунвальдам (1410 г.) над крыжакамі, была канчальна прылучана да крывіцкага гаспадарства Жмуйдзь.

---

[131] Антонович, там-жа, 58.
[132] Антонович, ц. пр., 91-93. Пскоўскі 1-шы летапіс, б. 193.
[133] Kolankowski, op. c., 34-35.
[134] Киркор, Ист. Литвы, 79-80.

**Прылучэньне Украіны.** Дарогаю вайны з аслабленай нутранымі непарадкамі Залатой Ардой была прылучана да задзіночаных Крывіч Украіна. Каля 1320 г. было прылучана княства кіеўскае[135]. Апрача Татар за Валынь была супярэчка з Польшчаю. У 1382 г. ўся Валынь, з выняткам Халма й Белза, што забрала Польшча, былі канчальна прылучаныя да В. Кн. Літоўскага[136]. За Альгерда было прылучана да Крывіч Падольле, але ў канцы за Вялікім Княствам Літоўскім засталося толькі ўсходняе Падольле, а заходнім завалодалі Палякі.

**Экспансія на ўзьбярэжжа Чорнага мора.** Ужо Альгерд валодаў паўночнымі берагамі Чорнага мора і ўладзіў там парты. За Вітаўта крывіцкае гаспадарства становіцца цьвярдой нагою на Чарнаморскім узьбярэжжу. Параза Вітаўта ля Ворсклы 1399 г. была толькі эпізодам, ды тут была бітва не з аднэй Залатой Ардою, але і з Тамэрлянам, што прыслаў сваю армію на чале із славутным вайводцам Эдыґеям. «Пад кіраўніцтвам Вітаўта а ягоных намесьнікаў кіеўскіх, камянецкіх і мцэнскіх ёсьць ня толькі ўтокі Дняпра й Днястра, але сфэра іхнага ўплыву прасьцягаецца таксама на гэнуэскія колёніі ў Крыме і тамашнія дзяржавы Тахтамышавічаў. Магутны ўплыў Вітаўтаў прасьцягаецца таксама на Касьпійскія сьцепы, дзе пры ягонай помачы ўдзержыўся, просьле крывавай вайны, на пасадзе Залатой Арды цар Ул-Махмэт, каторым Вітаўт апякаваўся»[137].

**Экспансія на заход.** Ад 1385 г. (вунія з Польшчаю ў Крэве) кіруецца крывіцкая экспансія таксама на заход. Крывіцкі гаспадар, Вялікі Князь Ягайла, займае польскі пасад. У польскай сталіцы Кракаве зьяўляецца й расьцець крывіцкі ўплыў. Зь перамогі над крыжакамі пад Грунвальдам 1410 г. карыстае ня Польшч, але вылучна Крывічы. Справаю крывіцкай палітыкі было, што Чэхі абралі на свой пасад, заміж польскага караля, крывіцкага Вялікага Князя Вітаўта, што паслаў туды сваім заступнікам Зыгмона Карыбутавіча. Ягайла, будучы польскім каралём, адкідае пад уплывам Вітаўта, карыснае Польшчы пасуленьне нямецкага цэсара жаніцца з чэскай каралііцаю, удавой Сохвіяй, з каторай Польшч адзержыла-б Сьлёнск, а жэніцца з крывіцкай патрыёткаю, княжнай Сохвіяй

[135] Любавский, ц. пр., 23.
[136] Там-жа, 28.
[137] Kolankowski,, op. c., 57.

Гальшанскай. Польскі каралеўскі двор робіцца балей крывіцкім, чымся польскім, там мае вялікі ўплыў Вітаўт, а гаспадыняю ёсьцека разумная сястра Ягайлава, Аляксандра, жонка Мазавецкага князя Земавіта. Ствараецца небясьпечнасьць адарваньня ад Польшчы Мазоўша. Тады супроць крывіцкага ўплыву ў Польшчы узьнімаецца рэакцыя. Польскі сойм пастанавіў, што сынове Ягайлавы ня маюць наступніцкага права на польскі каралеўскі пасад. Гэта было пачаткам канца Краўскай вуніі Вял. Кн. Літоўскага з Польшчаю, подле каторай задзіночанае крывіцкае гаспадарства прылучалася да «польскае кароны», бо гэтая карона магла апынуцца не на галаве крывіцкіх дынастаў. Зразумеўшы гэта, Крывічане, зь ініцыятывы Ягайлы, із свайго боку ўзрушылі Краўскую вунію і ліквідавалі ейную пастанову пра прылучэньня Літвы да «польскае кароны»[138].

Як мы бачылі, ад часу Гедыміна, задзіночаныя Крывічы ў некаторых прыпадках ужыцьцяўляюць імкненьні імпэрыялістычнага характару, але гэта быў адзін із тых радкіх імпэрыялізмаў, што былі карысныя народам, служачым іх спакменям.

## НЯГОДНАЯ КОН'ЮНКТУРА ДЛЯ КРЫВІЦКАГА ГАСПАДАРСТВА

У вапошняй чэцьверці XV стг. паўночныя берагі Чорнага мора заваявала магутная ў тым часе Турэччына. У 1475 г. турэцкі султан завалодаў на Крыме Каффаю, што была пад крывіцкім протэкторатам. В 1476 г. Туркі ўдырылі на Валохі, манючыся тым самым часам заняць чарнаморскія порты Кілію а Белгарад, належачыя да крывіцкага гаспадарства; заняў іх султан Боязэт у 1484 г. Адначасна Крым быў прыведзены ў васальную залежнасьць ад турэцкага султана. Адгэнуль за валоданьне Чарнаморскім узьбярэжжам, патрэбным Крывічом для гандлю з паўднём, вядуць яны цяжкое ходаньне з Турэччынаю, падзьдзержаванае мотывамі рэліґійнымі — ходаньням із непрыяцелям Сьвятога Крыжа. У тым самым часе крывіцкае гаспадарства цярпела ад частых грабежных наездаў Крымскіх Татар. Спыніць гэныя наезды можна было або збудаваньням густога ланцуга ўмацаваных месцаў на паўдні, што вымагала-б вялізарных выдаткаў, або заваяваньням Крыму, што, пры

[138] Пр. Kolankowski, op. c., 1, 13, 43, 53-54, 55, 58, 60, 61, 62, 63, 70, 93, 95-96, 97.

васальнай залежнасьці яго ад Турэччыны, можна было зрабіць толькі з адначасным зламаньням сілы гэтай, чаго ў гэным часе дапяць было немагчыма.

З другога боку, з усіх татарскіх «улусаў»[139], як спадкаемца адзінае Залатое Арды, высунуўся ўлус Маскоўскі. Калі яшчэ Маскоўскае Княства было пад татарскім ярмом, Масква вяла падлыжніцка-нявольніцкую палітыку ў дачыненьню да Татар; Маскоўскія князі, выстараўшыся сабе дазвол зьбіраць дань Татарам, жудасным грабяжом свайго жыхарства зьбіралі яе толькі, што давалі татарскім ханам дані балей вымаганай, з чым не маглі зь імі зраўнацца іншыя татарскія «улусы». Дзеля таго Татары ўсяляк памагалі пашырэньню тэрыторыі вялікага княства Маскоўскага.

Будучы бясьпечнай з поўначы, усходу а паўдня, Маскоўшчына кіруе свой, адзержаны ў спадку ад Татар, імпэрыялізм на заход у бок крывіцкага гаспадарства. Дзеля менаванага, захаваньне цэласьці крывіцкае тэрыторыі магчыма было адно пад умоваю, што галоўны дзейнік крывіцкае палітыкі — крывіцкія гаспадары, жывучы ў собскім гаспадарсьцьве, будуць рупатліва глядзець абароны сваіх усходніх земляў. Але гэтага ня было. Пачынаючы ад Казімера Ягайлавіча, вялікія князі Літвы, будучы, траха заўсёды, адначасна каралямі польскімі, былі ў бальшыні занятыя справамі польскімі а сваймі наступніцка-дынастычнымі імкненьнямі на Заходзе[140]. Дзеля дзьвюх менаваных прычынаў — ходаньню з Турэччынаю а ўблытаньню ў справы заходнія — ня толькі неаднойчы былі прапушчаныя прыпадкі, даючыя магчымасьць чыстага разьбіцьця Маскоўскага гаспадарства (1472, 1480, 1520-1522, 1541)[141], але й дадзена магчымасьць яму адарваньня ад Крывіч сьцягу іхных земляў. Найперш была заваявана Маскоўшчынаю ў 1478 г. хаўрусная з Крывічамі рэспубліка Вялікі Ноўгарад, дарма што Ноўгарадцы зрабілі пастанову прылучыцца да крывіцкага гаспадарства[142]. Часткава крывіцкае і хаўруснае з Крывічамі Вялікае Княства Цьверскае было заваявана Маскоўшчынаю ў 1485 г., у тым самым часе, калі ўсі крывіцкія сілы стаялі на паўдні, спадзяючыся турэцкага находу. Крывіцкая рэспубліка Вялікі Пскоў, крыху раней узалежненая ад Масковіі, была ёю паняволена ў 1509 г. Разань, Вялікае

139 Належачых да Залатой Арды аўтономных гаспадарстваў.

140 Пр. Kolankowski, op. c., 126-127, 155 і інш.

141 Kolankowski, op. c., 127-128, 129, 215-219, 258, 260.

142 Костомаров, Северно-русское народоправство, 437.

Княства ўсходняй часьці крывіцкіх Вяцічаў, у 1483 г. была ўзалежненая ад Масковіі, а ў 1520 г. зусім чыста пазбаўленая самастойнага быцьця[143]. Пачынаючы ад 1487 г. Маскоўшчына захапляе адну па аднэй крывіцкія землі ля вышняй Дзясны а вышняй Акі.

**Вайна 1558-1582 г.** Крытычным мамэнтам крывіцкаму гаспадарству была вайна з Маскоўшчынаю, ведзеная зь перапынамі ад 1558-1582 г. Пачала яе Масква ўварваньням у Лівоню (цяперашняя Латва й Эстоня). Ня могучы спраціўляцца, Лівонскі Ордэн зьвярнуўся помачы да Вялікага Княства Літоўскага, заразом прылучаючыся да яго. Адгэтуль вайна ў Крывічоў із Масквою. Адначасна крывіцкае гаспадарства прынучана было весьці вайну із Швэдыяй — за тую-ж Лівоню, а на паўдні адбіваць напады крымскіх Татар. Большая часьць крывіцкага гаспадарства была занята й спустошана маскоўскім войскам. Але ў канцы гэтае вайны Крывічы выйшлі пераможцамі. Нат быў мамэнт, калі Маскоўшчына стаяла перад загубаю. Маскоўскі князь Іван IV Страшны шукаў спасеньня ў Рыме, падаючы папежу надзею навярненьня Маскоўшчыны на каталіцтва. Інтэрвэнцыя папежа ўратавала маскоўскае гаспадарства. Замірэньням 1582 г. вымаганьні Крывіч зьвярненьня Смаленшчыны, Севершчыны, Пскова й Ноўгараду ня былі здаволеныя, адно былі зьверненыя Вялікія Лукі, Завалачча, Невель, Вяліж, Холм. Апрача таго, Крывічы ўдзержылі тэрыторыю Лівонскага Ордэну з выняткам Эстоні, што забралі Швэды.

**Люблінская вунія.** У найкрытычнейшым мамэнце гэтае вайны Палякі выступілі з дамаганьням задзіночаньня Вял. Княства Літоўскага з Польшчаю на ўмовах прылучэньня Вялікага Княства да Польшчы, пры гэтым часьць земляў крывіцкага гаспадарства была гэтым часам прылучаная да Польшчы, наймя была прылучана Украіна, ды ўсілствам былі прылучаныя гэткія этнографічна-крывіцкія землі: часьць Падляшша (Беласток, Аўгустова), часьць усходняга Палесься і часьць Севершчыны (Любеч). Каб усьцерагчыся вайны яшчэ з Польшчаю, Крывічане мусілі згадзіцца на польскія ўмовы, і, такім парадкам, быў падпісаны пакт вуніі ў Любліне 1569 г. Але, перамогшы на вайне, Крывічане зьмянілі ўмовы Люблінскае вуніі, заставаўся толькі хаўрус двух незалежных раўнапраўных гаспадарстваў із адным супольным гаспадаром, каторы быў

[143] Иловайский, Ист. Рязан. княжества, 232.

каралём польскім і вялікім князям літоўскім, і супольны сойм. Але запраўды Крывічане малі й далей свой апрычоны сойм, наймя пасслове, выбраныя на павятовых сойміках, зьяжджаліся на галоўны соймік у Слоніме, дзе прымалі ўсі пастановы, што датыкаліся іхнага гаспадарства, а на супольным сойме з Палякамі вялі перамовы, як дзьве розныя старааны, не мяшаючыся ў польскія справы і не дазваляючы Паляком мяшацца ў справы Вялікага Княства[144]. Але Украіна й часьці этнаграфічна-крывіцкай зямлі засталіся прылучанымі да Польшчы[145]. Адно ў 1646 г. Любеч быў зьвернены Крывічом; ён адтуль разам із Старадубскім паветам уходзіў у склад Смаленскага вайводзтва[146].

## АД 1600-1654.

**У часе анархіі ў маскоўскім гаспадарсьцьве.** Прычыны ўзьніку дынастычнага крышу (крызысу) ў Маскве, калі там царом стаў Барыс Ґадуноў, былі чыста маскоўскага нацыянальнага характару. Былі яны ў рэліґійным дачыненьню Маскалёў да іхных гаспадароў, у ўважаньню іх за свайго роду земных багоў, у безгранічнай аддадасьці гаспадару, не зважаючы на ягоныя якасьці асабістыя, у гатовасьці аддаць за яго жыцьцё пад страхам вечных мукаў на тым сьвеце, наапошку ў перакананьню, што адно тый «запраўдны, богам-даны» ґаспадар, што паходзе з гаспадарствуючай дынастыі. Але калі гэны крыш узьнік, калі пачалася анархія, зь яе скарысталі немаскоўцы Маскоўскага гаспадарства, галоўна Крывічане — Северяне, Смаленцы, старавечныя Вяцічы, займаючыя тэрыторыю на паўдня ад ліні праходзячай ад Мажайску да Каломны і далей на ўсход уздоўж Акі да граніцаў із Мардвою, ды яшчэ крывіцкі Пскоў на паўночным заходзе, а Донскія казакі[147] Зь некрывічоў сьпяшаліся скарыстаць із анархіі Вялікі Ноўгарад, Мардва, Чарамісы (Мары) а іншыя. Дыкжэ паўсталі й адзьдзяліліся ад Маскоў-

---

[144] Лаппо И. И., Западная Россия и ее соединение с Польшею (Прага 1924), б. 13.

[145] Прылучаныя да Польскага каралеўства часьці ўсходняга Палесься й Севершчыны былі адміністрацыйна прылучаныя да Украіны.

[146] Шендрик, Местности, 574.

[147] Яшчэ цяперака ў мове Донскіх казакоў ё шмат беларускіх асаблівасьцяў. Як відаць таксама з астачаў іншых асаблівасьцяў мовы Донскіх казакоў, іхная мова даўней (да XVII стг. ўлучна) была беларуская і, значыцца, самі яны беларускага — северска-вяціцкага паходжаньня.

шчыны Севершчына, месты Смаленскай зямлі, землі Вярхоўскія (ля вышняй Дзясны а вышняй Акі), прышлі памсьціцца Маскве Донскія казакі, паўстала й адзьдзялілася старавечнае княства Разанскае на чале зь Ляпуновам і вайводаю Рыгорам Сунбулам. У Пскове просты народ, прагнаўшы прысланых із Масквы баяр а вайводу, упорыста бараніў незалежнасьці свайго гаспадарства. Зь не Крывічоў Мардва й Чарамісы на чале двух Мардзьвіноў аблягалі Ніжні Ноўгарад. Наапошку адзьдзяліўся В. Ноўгарад[148]. Сучасныя сьветчаць і расійскія гісторыкі нас запэўняюць, што гэта была вайна поўначы з паўднём[149], але яны не даказуюць, што паўдня Маскоўскага гаспадарства займалі Крывічане. Крывічане не ваявалі за «праўдзівага» цара. Прыхільнікі тушынскага «цара» добра ведалі, што ён не маскоўскі царэвіч Зьмітра Іванавіч і дыкжэ дзеля таго і таму, што ён ішоў супроць Масквы, падзьдзержавалі яго. З часам перастала ваяваць за цара й поўнач, запраўдная Маскоўшчына[150]. Заставалася вайна двух народаў.

Было колькі прычынаў таго, што ў канцы Маскалі перамаглі паўсталых Крывічан а іншых немаскалёў Маскоўскага гаспадарства. Маючы собскае гаспадарства, Маскалі маглі выступаць болей арганізавана й салідарна, чымся паўсталыя, што мусілі ўсё арганізаваць спачатку і выступалі ў бальшыні прыпадкаў кажная зямля паасобку. Другое, на баку Масквы быў царкоўны аўторытэт вышшай герархіі, што бязупыну заклікала ўсіх на абарону Маскоўскага гаспадарства дзеля спасеньня душаў. Дыкжэ перамога поўначы, Маскалёў сталася нат вылучна пад лёзунґам рэліґійна-царкоўным[151]. Не бяз значаньня было й тое, што чужаземныя адзьдзелы, каторыя прыходзілі на памогу самазванцам, карыстаючыся з магчымасьці, грабілі жыхарства паўсталых крывіцкіх земляў і наагул буянілі, або калі за правадыра адзьдзелу паўсталых лучыў чалавек «бяз роду й плямені», то дзеяньні ягоныя выраджаліся ў свайго роду сучасны бальшавізм (Балотнікаў заклікаў біць баяр, браць іхныя меньні й жанкі[152]).

---

[148] Пр. Соловьев С., История России, т. VIII, 107, 173, 176-178, 182, 184, 191, 193, 200, 207, 230, 231, 232, 278, 416, 443, 473, 475-476, 477, 495.

[149] Соловьев, там-жа, VIII, 182, 226, 244, 285, 406, 483.

[150] Соловьев, там-жа, VIII, 262.

[151] Соловьев, там-жа, VIII, 345.

[152] Там-жа, 180, 318, 416.

Дэцыдуючае значаньне для справы паўсталых крывіцкіх земляў Маскоўскага гаспадарства мала тое, што незалежныя Крывічы, зн. Вялікае Княства Літоўскае, траха ўвесь час заставаліся пасыўнымі назіраньнікамі здарэньняў, што адбываліся за іхнай усходняй а паўночнай граніцаю, дарма што крывіцкія Ліцьвіны (незалежныя Крывічане) жадалі памагчы сваім братом. Прычына была ў тым, што ў Польшчы, з каторай Крывічы былі зьвязаныя люблінскай вуніяй, узьнялося ў тый час супроць караля (ён-жа вялікі князь Літвы) вялікае паўстаньне Зэбрыдоўскага.

Адно ў 1609 г., калі, пры памозе Швэдыі, Маскоўскае гаспадарства авалодала палажэньням, крывіцкае гаспадарства выступіла вайною супроць яго. Але, узяўшы Смаленск, Вялікі Князь Зыгмон IV Ваза спыніў вайну ў сувязі з палажэньням у Польшчы.

Запраўды арганізаванае выступленьне крывіцкага гаспадарства супроць Масквы сталася адно ў 1617 г., калі ўжо Маскоўскае гаспадарства было адноўлена ў сваіх ранейшых, з выняткам Смаленску, граніцах. Дарма што крывіцкае войска было нячысьленае, яно пад камандаю гатмана Караля Ходкевіча прасувалася борзда. Увосень 1618 г. Ходкевіч аблёг Маскву. Маскалі прасілі міру; заміж міру было замірэньне 1 сьнежня 1618 г. ў Дзеўліне пад Масквою на 14 год і 6 месяцаў, подле каторага крывіцкаму гаспадарству былі зьверненыя Смаленшчына й Севершчына. З абедзьвіх земляў было ўтворана Смаленскае вайводзтва, што прасьцягалася «за Палянаўку а Масальск», «за Бранск а Трубчэўск»[153]. Іншыя крывіцкія землі засталіся ў Маскоўскім гаспадарсьцьве, дзе іх ждала ранейшая няволя й русыфікацыя.

Неабходна ў канцы адцеміць, што ня толькі гарачым жаданьням Крывічан свайго незалежнага гаспадарства было зьвярненьне адарваных ад яго Масквою крывіцкіх земляў, але й паміж Крывічанмі розных крывіцкіх земляў маскоўскага гаспадарства, а таксама ў іхным дачыненьню да Літвы відаць у гэтым часе ладная салідарнасьць, але была гэта салідарнасьць болей стыхійная, чымся арганізаваная.

Вайною з Масквою 1632-1634 г. граніцы незалежных Крывіч наагул не зьмяніліся і заставаліся такімі да 1654 г.

---

[153] Konopczyński, Dzieje Polski Nowożytnej, I, 354.

У пару ад 1580-1654 г. палажэньне крывіцкага гаспадарства было моцнае, асабліва раўнуючы з папярэдняй парою XVI і на'т канца XV стг. Прычына была галоўна ў васлабленьню Маскоўшчыны, другога просьле Турэччыны дужога непрыяцеля.

(Далей будзе).

---

## RÉSUMÉ

*National character of the Great Lithuanian Principality.* The period of individual tribal states was succeeded in the history of Whiteruthenia by the period of the United Whiteruthenian state, called Great Lithuanian Principality or Lithuania. Owing to the confusion created by the Russians in the realm of national names, not everybody can clearly distinguish which nation built up the Great Lithuanian Principality. Therefore the author brings forth arguments proving the Whiteruthenian character of the historical Lithuanian state. The arguments are as follows: 1) The state emblem—an armed horseman—is of Whiteruthenian origin. 2) The law code of the Great Lithuanian Principality, the Lithuanian Statute, is of Whiteruthenian origin too, both on account of the language in which it was written and of the origin of the laws, included theerein. 3) Whiteruthenian was the language spoken at the court of the Great Princes, the dynasty used it in everyday life. It was the language of the administrative offices, educated classes, literature, it was the state language through the whole state territory, regardless of nationality. During the five and half centuries of the existence of the Great Lithuanian Principality, there was not a single official document nor any secular writing of private character written in the Lithuanian language. The administrative, fiscal and law terminology is also Whiteruthenian and not Lithuanian. The Lithuanian nobility used the Whiteruthenian language in political and public discussions as well as in private and family life, and considered their own language inferior. 4) Whiteruthenian considered the Great Lithuanian Principality as their own state. They were patriots of this state and called themselves Lithuanians. Taking into consideration the national consciousness of the Whiteruthenians, this fact proves that the Great Lithuanian Principality was really a Whiteruthenian state. 5) Finally the politics of

the historical Lithuania were a continuation of the politics of the individual tribal states of the former period and included national aims of the Whiteruthenian nation. All the above mentioned facts prove the Whiteruthenian character of the state called the Great Lithuanian Principality.

*Creation of the united Whiteruthenian state.* The basic and primary nucleus of the united Whiteruthenian state, called Lithuania, became about the middle of the 13th cent. the south western whiteruthenian regions, situated between the Nioman river and its tributary Velija. Principal old cities were: Horodzen (Grodna), Vovkovysk, Slonim, Zdzitow. The capital was Novhorodok and the first ruler was Mindovh. During the next hundred years most of the territory was organized within the boundaries of this state and the rest was dependent on it. The chief adversaries of this state in the 13th century were the Baltic tribes of Jacviahi, Samogitia and Aukshtota—the last two constitute the nation called at present Lithuania. The German knight orders of Livonia and Teutonia were also ennemies of this state.

*The period of greatness of the united Whiteruthenian state* are the 14th and 15th cent. In the 14th cent. the remainder of the territory was incorporated in the state—Severland, the Principalities of Smolensk, Razan, and the republic Pskov. Tver joined the state in the 15th cent. Among the non-Whiteruthenian lands, which were annexed in the 14th cent., were the Ukraine and territory bordering Black Sea. Samogitia and the Grand Novhorod were annexed in the beginning of the 15th cent. When the Whiteruthenian ruler, the Great Prince Jahaylo occupied the Polish throne (1385-1434), the Whiteruthenian civilization spread westward into Poland. (Cultural expansion continued there until the end of the 15th cent.) In this period the Whiteruthenian state stretched from the Baltic to the Black Sea; from the Buh river, the tributary of Vistula to the city of Razan, on the Oka river.

*Unfavourable conjuncture for the Whiteruthenian State.* Turkey attacked this state from the south during the last quarter of the 15th cent. Moscow which had broken the Tartar yoke and became the imperialistic heir of the Tartar Golden Orda assaulted it in the east. Fighting these two ennemies simultaneously, Whiteruthenia lost the Black Sea coast to Turkey and its northern and eastern regions to Muscovy (the latter were partially returned in 1582).

In 1569, Whiteruthenia being simultaneously attacked by the Muscovites, the Swedes and the Crimean Tartars formed a union with Poland.

This constituted a union of two equal, independent states having a common ruler who was king in Poland and Great Prince in Lithuania. All the Ukrainian lands and small parts of ethnographical Whiteruthenian lands were ceded to Poland (part of Podlashe, part of eastern Polessie, district of Lubech of Severland).

*Liberation of the Smolensk region and of Severland.* In the beginning of the 17th cent. a dynastical crisis developed in Muscovy. The subdued Whiteruthenian lands—Severland, the Smolensk region, the old Principality of Razan and Pskov—revolted against Muscovy state and separated from it. However, only Severland and the region of Smolensk attained their complete freedom. The reason why the rest of the territory were not liberated was because of the failure of independent Whiteruthenia, i.e., the Great Lithuanian Principality, to sufficiently assist them. Poland, the other partner of the union, was threatened by internal disorders at that time. Especially disastrous was the revolt of Zebrzydowski against the king (who was also the great prince of Lithuania.) In the end Severland and the region of Smolensk were annexed to the Whiteruthenian state and formed the Smolensk province.

---

**Ул. Клішэвіч**

## ВОЗЕРА

**Стаіць, як вока, возера вады,**
**А лес кругом выцягваецца ў неба.**
**Расьпісана у розныя сьляды**
**На мокрым беразе жывёлай глеба.**
**Уважліва у возера зірні!**
**Бязьмежная адлегласьць прад табою:**
**Як зорнай ночы сьвецяцца агні,**
**Тады душа прыходзіць да спакою.**
**Прыйшоў і я да возера жыцьця,**
**Каб паглядзець у глыбіню, напіцца.**
**Там зоры дзіўным сьветам зіхацяць**
**І ў люстра возера сплывае таямніца.**
**Пазнаньне ў глыбіні магчыма,**
**Тады й далёкае бліжэй перад вачыма.**

12. IX. 1950 г.

## Патрэба навуковай працы.

Спрадвеку сярод усіх больш-менш культурных народаў сьвету вядзецца навуковая праца. Без навукі сьвет застаўся-б пры сваім спачатным прымітыўным стане і людзтва, размножыўшыся, не магло-б пражыць із тае еміны, што здабывала без навукі. Апрача таго, народы ня ведалі-б свае мінуласьці, каторая ё подам (падставаю) будучыні; ня ведалі-б яны таксама праўдзівага стану свае нацыянальнае грамады і ейных магчымасьцяў. Гэта наагул. Але ў дадзеную часіну, апрача ўсяго іншага, беларускаму народу патрэбна свая веда-навука дзеля вызваленьня яго. Беларуская навука гэта адзін із найважнейшых, неабходных спосабаў здабыць незалежнасьць Беларусі, каб скончылася бязьмежнае гора нашага народу. Каб чужына, ад каторай залежа доля нашага народу, нам прыяла, трэба, каб яна нас знала, каб даведалася права беларускага народу на вольнае незалежнае жыцьцё. Пазнаёміць чужнікоў із праўдзівым станам беларускага народу, зь ягонай гісторыяй, сучаснасьцяй і будучымі магчымасьцьмі можа толькі беларуская навука. Яна гэта ясна пакажа й давядзець навукова прыведзенымі, пераконуючымі фактамі, арґумэнтамі, даводамі. Але ня толькі трэба навукова працаваць, трэба яшчэ друкам пашыраць здабытую праўду-веду; бяз гэтага мала хто зь яе скарыстае. А з надрукаванага можа карыстаць і чужнік і кажны Беларус, пашыраючы веданьне пра свой народ. На гэта выдаецца «Веда». Праўда, толькі, колькі ў «Ведзе» друкуецца, гэта як на лек хвораму. Але кажны прызнае, што тым болей гэта патрэбна. У «Ведзе» ўсе працаўнікі працуюць дарма, аддаючы ёй вольны час ад работы на пражытак, і яны-ж найбалей матар'яльна памагаюць «Ведзе». Друк 32 бачынаў «Веды» і папера каштуюць 160 дал. З гэтага відаць, колькі трэба дакладаць яшчэ да тых ахвяраў і падпіскі, што ў «Ведзе» квітуем. Каб «Веда» магла існаваць, трэба каб ня толькі заставалася дагэтулешняя ахвярнасьць нашых людзёў на «Веду», але каб ахвярнасьць павялічылася. Хай кажны прыяцель нашага народу сам споўніць сваю павіннасьць да «Веды» і заахвоце да гэтага сваіх знаёмых, тады быцьцё «Веды» ня толькі будзе забясьпечана, але й яна пабольшае.

**Падзяка.** У сувязі з выездам Спадарства В. й Я. Кажаноў зь Ню Ёрку рэдакцыя «Веды» шчыра дзякуе Спадарыні Яўгені Кажан'ісе за ахвотнае супрацавенства (пісаньне на машынцы дарма матар'ялаў «Веды»).

## ХРОНІКА

**Памерлі Зьм. Дарашэнка а М. Кекала.** У сакавіку памерлі — у Мюнхене проф. Зьмітра Дарашэнка, прэзыдэнт Украінскай Вольнай Акадэміі Навук і пачэсны сябра Крыв. Нав. Т-ва Скарыны і ў Ню Ёрку інж. Мікіта Кекала. Абодва ўмерлыя Украінцы прыялі беларускаму народу і нашаму Навуковаму Т-ву.

**Моваведная Сэкцыя ў Крыв. Нав. Т-ве Скарыны** закладзена 28 красавіка сёлета.

**Рэфэраты ў Крыв. Навуковым Т ве Скарыны** будуць кажную трэйцюю сыботу кажнага месяца ў 7 гадз. увечары ў «Беларускай Хатцы» 461 Ashford Str., Brooklyn. Апрача таго, могуць быць рэфэраты Т-ва і ў іншыя дні.

**«Тэрыторыя й жыхарства Беларусі»** было тэмаю рэфэрату, які 21. 4. маў др. Я. Станкевіч у Крывіцкім Нав. Т-ве Скарыны.

**«Доля беларускае мовы ў розныя поры гісторыі Беларусі»** было тэмаю другога рэфэрату, што быў тым-жа рэфэрэнтам прачытаны ў Крыв. Нав. Т-ве Скарыны 19 мая.

**Беларускі рэфэрат у Украінскай Вольнай Акадэміі Навук** маў 20 мая проф. Я. Станкевіч на тэму «Дачыненьні Украіны й Беларусі ў гісторычным аспэкце».

**Годні зьезд Крывіцкага Навуковага Т-ва Пр. Скарыны** адбыўся 15 красавіка ў Ню-Ёрку. Зьезд пачаўся рэфэратам проф. Я. Станкевіча «Прычыны асталасьці Беларусі». Рэфэрэнт паказаў, што з усіх народаў СССР Беларусь мала найслаўнейшую мінуласьць, творачы ў працягу 5½ стагодзьдзяў гаспадарства, званае Вялікім Княствам Літоўскім. Заразом Беларусь у працягу сваее гісторыі была краям найбалей варожым Маскоўшчыне і найбалей ізь ёй ваявала. Таковымі Беларусаў разумелі і ў Маскоўшчыне, дзе на'т сярод простага народу прыказь зляжылася «Бейся с ним, как с Литвой» (Літвою ў Маскоўшчыне звалі Беларусаў). І прылучаныя былі Беларусы да Маскоўшчыны, як народ із кажнага гледзішча ёй чужы а варожы. А будучы паняволеныя Маскоўшчынаю, Беларусы не супакоіліся, але паўставалі супроць яе (у 1812, 1831, 1863). Дзеля таго Маскалі, уціскаючы ўсі паняволеныя імі народы, асабліва ўціскалі Беларусаў. Між іншага, Расія аж да апошняй рэволюцыі не дапусьціла да адчыненьня ў Беларусі ніводнага ўнівэрсытэту; наадварот, у тым часе, калі ў Беларусі Маскалі ўнівэрсытэты зачынялі (Полацкі ў 1820 г., Віленскі ў 1832, мэдыцынскую акадэмію ў

Вільні ў 1841 г. і інш.), у іншых паняволеных краёх адчынялі. Дык не якісь характар Беларуса прычыніў ягоную асталасьць, наадварот, із сваім гэтым характарам Беларусы стварылі вялікую сілу, каторая была небясьпечная Маскоўшчыне; дзеля таго гэтая асабліва парупілася як найбалей аслабіць Беларусаў і ня даць ім магчымасьці разьвівацца.

Просьле гэтага было лічбызданьне ўступаючага Прэзыдыюму а Рэв. Комісі. У працягу году сяброве Т-ва напісалі колькі навуковых працаў на тэмы зь беларускае мовы, зь беларускае літаратуры а гісторыі Беларусі. У Т-ве было прачытана колькі дзесяткоў навуковых рэфэратаў і зладжаны 4 літаратурныя вечары. Апрача таго, асобныя сяброве Т-ва малі рэфэраты на беларускія тэмы ў чужых навуковых арганізацыях і прымалі ўчасьце ў дыскусі на чужых рэфэратах. У вапошнім годзе ў Т-ве арганізавалася Літаратурная Сэкцыя зь пісьменьнікам Антонам Адамовічам на чале. Дарма што Крывіцкае Нав. Т-ва Скарыны ёсьць арганізацыяй без матар'яльнай базы, яно, дзякуючы вялікай ахвярнасьці асобных сваіх сяброў, заклала й удзержуе Беларускі Архіў; дзякуючы тае-ж ахвярнасьці сяброў і беларускага грамадзтва, выдаець часапіс «Веду». Гэты часапіс быў вельмі добра прыняты, як Беларусамі наагул, так і чужым навуковым сьветам. Даўшы з падзякаю абсолюторыюм старому Прэзыдыюму, Зьезд выбраў новы Прэзыдыюм у гэткім складзе: проф. др. Я. Станкевіч — старшыня, проф. др. інж. В. Фядуковіч а сп. Антон Адамовіч — заступнікі старшыні, сп. Я. Шакун — сакратар, сп. Ант. Шукелайць—скарбнік. У Рэв. Комісію выбраныя: сп. А. Махноўскі, сп. Я. Юхнавец, сп. Я. Ліманоўскі і сп. М. Кунцэвіч. Зьезд прайшоў у згодным і бадзёрым настрою. За пяць год бацьця Навуковага Т-ва можна было пераканацца, што яно ня толькі канечне патрэбнае для справы беларускага народу, але й дзейнасьць ягоная пры добраї волі беларускага грамадзтва зусім магчымая.

## Купля друкарні

Адно выродкі не жадаюць дабра свайму народу. Але мала жадаць, трэба й рабіць, каб гэтае дабро прышло, сталася. А станецца тады, калі найбольшы лік Беларусаў будзе рупіцца пра свой народ і працаваць для яго. А гэта йзноў будзе адно тады, калі ў нас будзе свой друк, свае кніжкі, часапісы, газэты, ды ня троху, як на паказ, а шмат, досыць, чаго бяз собскае друкарні немагчыма дапяць. Дзеля таго справа куплі друкарні — гэта справа жыцьця й сьмерці.

Дык запісавайцеся самі ў сябры будучай беларускай акцыйнай супалкі друкарскай і заахвочавайце да гэтага іншых. Адна акцыя (пай) 10 дал. Заявы пісаць на адрыс:

J. Stankievich, 6 Vandervoort Pl., Brooklyn 6, N. Y. U.S.A.

Дальшыя заявы ўзяць акцыі беларускай друкарскай супалкі прыслалі: П. Масальскі 10 акцыяў (100 дал.), К. Сінявод 3 акцыі (30 дал.). У лік паёў прыслалі па 20 міжн. купонаў (па адным дал.) А. Калодка і М. Скабей.

## ПАДЗЯКА

Кіраўніцтва Беларускага Архіву ў Ню Ёрку выказуе вялікую падзяку а. Ляву Гарошку ў Парыжу за прысланыя ўв Архіў 4 пачкі кніжак і часапісу «Божым Шляхам» і а. др. Чаславу Сіповічу ў Лёндане за прысланыя два пачкі кніжак і часапісаў.

---

## ШТО СТАЛАСЯ У МАЮ У ГІСТОРЫІ КРЫВІЧ-БЕЛАРУСІ

Май 1096 — Старадубцы ў сваім месьце Старадубе на чале із Северскім князям Алегам 33 дні бараніліся ад украінскага князя.

23. V. 1167 — Сьмерць сьв. Еўфрасіні (Прузыны), княжны Полацкае, унучкі Усяслава Вялікага.

20. V. 1386 — Ліст-абавязаньне Смаленскага князя Юр'я Сьвятаславіча, каторым ён прызнаваў над сабою ўладу Вялікага Князя Ягайлы, гаспадара задзіночанага крывіцкага гаспадарства, званага Літвою.

Май 1390 — Жмуйдзь здалася крыжаком. На Жмуйдзь навёў крыжакоў Вітаўт, ваюючы зь Ягайлам за пасад вялікага князя.

22. V. 1404 — Мір із крыжацкім Ордэнам у Рацёнжу. Кароль Ягайла а паўнамачнікі вялікага князя крывіцкага («літоўскага») Вітаўта зьехаліся зь вялікім маґістрам Конрадам фон Юнґінґен і зрабілі канчальны мір, абаперты на ранейшым міру Горадзенска-Салінскім. У паасобку гэтым мірам пацьвердзілі прыналежнасьць да Ордэну Жмуйдзі.

15. V. 1432 — Вялікі князь крывіцкі («літоўскі») Сьвідрыгайла ўзна-

| | |
|---|---|
| | віў Ськірстомонскі хаўрус із крыжакамі, подле каторага на помач крыжаком у пастаноўленай Палякамі ў красавіку 1432 вайне зь імі малі йсьці ўсі сілы Вялікага Княства Літоўскага. |
| 6. V. 1434 | Вялікі князь крывіцкі Зыгмон I выдаў земскі прывілей для ўсяго свайго гаспадарства. |
| 2. V. 1447 | Прывілей Вялікага Князя Казімера, каторым ён гарантаваў цэласьць а непарушнасьць тэрыторыі крывіцкага гаспадарства («Літвы»). |
| Май 1512 | Наезд крымскіх Татар на ўсходнія месты крывіцкія-Белеў, Адоеў і Варатынск. |
| 5. V. 1551 | Сьмерць Барбары Радзівілішкі, жонкі Вял. Князя Зыгмона-Аўгуста. |
| 1. 5. 1576 | Сьцяпан Батура каранаваўся за караля польскага а Вялікага Князя Літоўскага (беларускага). |
| 17. V. 1606 | Забіты ў Маскве Самазванец першы. |
| Май 1607 | Зьвярнуліся з Тушына ў Пскоў пскоўскія стралцы і павялі пропаганду супроць Масквы. |
| 28. V. 1609 | Перамога паўсталага Пскова над маскоўскім войскам. |
| 31. 5. 1655 | Вялікі князь крывіцкі Ян-Казімер звольніў Стары Быхаў ад падачкаў (падаткаў) і павіннасьцяў на 20 год за тое, што гэтае места доўга баранілася й абаранілася ад казацкага гатмана ўкраінскага, Залатарэнкі. |
| 5. V. 1706 | Швэдзкія гэнэралы разьбілі окупацыйнае войска маскоўскае ў Ляхавічах; большае швэдзкае войска стаяла тады ў Горадне. |
| 2. V. 1708 | Вайсковы Круг Донскіх Казакоў абраў Кандрата Булавіна за вайсковага атамана. |
| 1. V. 1832 | Расійскі ўрад зачыніў Віленскі ўнівэрсытэт. |

---

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «ВЕДЫ»

далі ахвяры: Я. Станкевіч 75 дал. (складка за месяцы красавік-чырвень), В. Лосік — 20 дал., П. Зыбайла — 13, Ів. Канарчук — 4 дал. (складка за мес. студзень-красавік), др. Ст. Грынкевіч — 3.50 д., проф. П. Каваліў, проф. В. Чапленко, Ан. Валюшка, Ю. Каляда — па 1 д., разам 121 д. 50 ц. Усім ахвярадаўцам вялікі дзякуй.

**Падпіска на «Веду» адзержана:** ад Alliance College — 3 д., Т. Нагорнай 1 д., Ів. Канарчук — 1 д.

**Усі грошы ў Рэдакцыю «Веды» просім слаць на адрыс рэдактара:**

J. Stankievich, 6 Vandervoort Place, Brooklyn 6, N. Y.

## АДКАЗЫ РЭДАКЦЫІ

Сп. П. Маркоўскаму: 2 дал. на розныя мэты адзержылі. Сп. М. Скабяю: 30 міжнар. купонаў адзержылі й залічылі згодна із зычэньням. Сп. А. Калодку: 20 міжн. купонаў адзержылі.

**У Задзіночаных Гаспадарствах Амэрыкі «Веду» прадаюць у:**

1) **Ню Ёрк:** а) украінская кнігарня «Говерля», 41 Е. 7 вуліца, Ню Ёрк Сіты, б) сп. А. Івашкевіч, 323 Е. 100 вуліца, Ню Ёрк 29, в) рэдакцыя «Веды»;

2) **Чыкаґо:** сп. В. Пануцэвіч, 723 W. De Koven Str., Chikago 7;

3) **Спрынґфэльд, Мас.:** сп. Яз. Вінцынґер, 159 Шарон вул.;

4) **Саўт Рывэр, Ню Джэрсі:** сп. В. Стома, Whitehead Ave.;

5) **Ню Брансвік, Ню Джэрсі:** сп. Я. Азарка, 22 Проспэкт вул.;

6) **Джэрсі Сіту:** Др. Ст. Грынкевіч, St. Francis Hospital, 25 E. Hamilton Pl. 27.

7) **Дытройт, Міч.:** сп. М. Сардачэнка, 6733 Varjo St. Detroit 12.

**Прадстаўніцтвы «Веды» вонках Задзіночаных Гаспадарстваў Амэрыкі:**

**у Анґліі:** Dr. Č. Sipovič, Marian House, Holden Avenue, Woodside Park, London 12;

**у Нямеччыне: Адміністрацыя газэты «Бацькаўшчына» (адміністратар** Branislau Dubowski, (13b) München-Feldmoching, D. P. Lager, Bar 140); Zinaida Stankievič'ycha, (13b) Bad-Aibling bei Rosenheim, I. R. O. Children's Village;

**у Бэльґіі:** M. Žylik, Louvain, Hoover Place 8.

## ЗЬМЕСТ



*Рэдактар: Др. Я. Станкевіч.* *Editor: Dr. J. Stankievich.*

Printed by Rausen Bros., 417 Lafayette Street, New York 3. 317